Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 9-га сакавіка 1934 г.

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

№ 5 (30).

Год 2-гі

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## На „галодныя“ тэмы.

У рэдакцыю польскага часопісу „Кур. Віл.“ карэспандэнт часопісу прыслаў пробкі „хлеба“, якім кормяцца сяляне ў Сьвянцяншчыне. Дый то толькі больш заможныя: на 10-15 гэктарах зямлі. „Хлеб“ гэты — такі, што, паводле слоў карэспандэнта, у Польшчы ня толькі сяляне, але й сьвіньні іх не захацелі-бы яго есьці. А ў нас — у нас на такі „прысмак“ сягоньня могуць пазволіць толькі багацейшыя гаспадары: бяднейшыя і таго ня маюць...

Народ пухне з голаду. Апошнія кароўкі і конікі даўно ўжо прададзены. Есьці ўжо няма чаго. Заработкаў няма.

Ўрадавая дапамога,—піша далей карэспандэнт „Кур. Віл.“,—абыймае толькі зусім малую частку галадаючых. Перад гміннымі ўрадамі адбываюцца між людзьмі баталіі за некалькі кілёграмаў мукі, якую даюць на адработак. Сяляне ня пытаюцца навет, колькі і як трэба будзе адрабляць. Атрыманую муку мяшаюць з ашакамі, выкай, аўсом, буракамі і пякуць гэтак-званыя „какоркі“. Пробкі гэтых „какорак“, якіх ня елі-бы польскія сьвіньні, рэдакцыя „Кур. Віл.“ паказвае ўсім ахвочым паглядзець, чым корміцца беларускі селянін.

Як адзначае рэдакцыя „Кур. Віл.“, гэтак сама жыве наш народ блізу па ўсей Віленшчыне, а не ў адной Сьвянцяншчыне. Ня дзіва, што людзі пухнуць з голаду, што пошасныя хваробы страшэнна пашыраюцца. Карэспандэнт апавядае аб адной сям'і ў мелегянскай гміне, у якой ад вынішчэньня арганізму—ці, папросту, ад голаду—памерла пяцёра дзяцей...

Ясна, што аб магчымасьці абсеяць вясной зямлю сваімі сіламі ня можа быць і гутаркі! Дык скуль жа ўзяць насеньне?

Карэспандэнт пытаўся ў сялян, ці не ўзялі-бы пазыку на насеньне? На гэта сяляне адказалі рашучай адмовай: яны дагэтуль ня здолелі сплаціць пазык з 1929 і 1930 гадоў ды страшэнна шкадуюць, што іх бралі: бо-ж тады куплялі насеньне па цане ў 4 або 5 разоў вышэйшай, чым стаіць цяпер...

Вось дык запраўды жудасны абраз. І мы зусім цьвёрда мусім заявіць, што гэта — вынік ня толькі леташняга неўраджаю. Гэтак вынік усяго укладу нашага вясковага жыцьця і тэй гаспадарча-эканамічнай палітыкі, якая дагэтуль тут вялася.

Дзякуючы таму, што беларускае сялянства не з'арганізавана, яно ня мае ніякага голасу, ніякага ўплыву на эканамічную палітыку дзяржавы. Затое-ж вялікі ўплыў маюць буйнейшыя зямляўласьнікі, якія добра з'арганізаваліся, маюць голас і ў заканадаўчых установах, і ў усялякіх урадах ды з гэтага выцягваюць карысьць толькі для сябе—для сваей клясы. І сотні міліёнаў ідуць на падтрыманьне абшарніцтва, якое задоўжылася вышэй сваіх вушэй ды сваіх даўгоў і залегласьцяў ня плаціць. Як падае „Кур. Віл.“, на Валыні на гэктар абшарніцкае зямлі прыпадае доўгу 700 зл., у тым — 100 зл. падатковых залегласьцяў. І абшарнікі ўсьцяж дабіваюцца ад дзяржавы новых і новых палёгкаў і крэдытаў, каб гэтая—паводле азначэньня „Кур. Віл.“—„заслужоная для польскай справы на Крэсах“ кляса—не зьвялася.

А што робіцца дзеля дапамогі сялянству? — Абраз, намаляваны карэспандэнтам „Кур. Віл.“, дае аж залішне красамоўны адказ. Пад той час, як абшарнікі рвуць грошы зусюль, дзе толькі магчыма, і даўгоў ня плаціць,—сяляне ня хочуць пазычаць, бо — мусяць плаціць, бо гмінная адміністрацыя ні ў якім выпадку не дапускае, каб на сялянскай гаспадарцы набралася падатковае залегласьці да 100 злотых з гэктара...

У выніку гэтага селянін, ня маючы ніякіх ашчаднасьцяў і запасаў, у выпадку неўраджаю аказваецца зусім бязрадным і можа толькі маўкліва пухнуць з голаду. А ці-ж чулі мы хоць-калі аб выпадку, каб спух з голаду... абшарнік?

Дый неўраджай у нас пераварваецца ў сталае зьявішча. Ня маючы ў патрэбнай меры дапамогі звонку на паляпшэньне гаспадаркі, або атрымліваючы яе ў такіх варунках, што пасьля прыходзіцца аддаваць за доўг у 4-5 разоў больш хлеба, чым узяў, селянін сее з году ў год горшае насеньне і з

году ў год мусіць зьбіраць яго менш. Дык навет сярэдні недарод пэратвараецца ў нас у катастрофу.

Сёлетні голад прымушае паважна падумаць аб тым, што далей гэтак быць ня можа й не павінна. Дзяржава абязана дапамагчы сялянству беларускаму ў такой самай меры, як дапамагае польскаму абшарніцтву на нашай зямлі — за яго „культурныя і нацыянальныя заслугі".

Каб лячыць хворага, мала сунімаць у яго боль. Трэба знайсьці прычыну хваробы і з ёй змагацца.

Каб ратаваць нашу вёску ад голаду, мала даць ёй кусок хлеба сягоньня: трэба пазнаць прычыну голаду, трэба гэту прычыну зьніштожыць. А якая гэтая прычына, — адказу на гэта няма патрэбы пытацца ў вучоных дасьледчыкаў: яе ведае кожын селянін. Прычына гэтая — нашае малазямельле і нястача адпаведнае дапамогі, агранамічнае і фінансавае, з боку дзяржавы.

Гэту дапамогу трэба даць, зямлю трэба даць, — і селянін наш ня будзе пухнуць з голаду.

У мамэнт перажыванае катастрофы голаду, у мамэнт, калі сярод кіруючых дзяржаўным жыцьцём чыньнікаў чуваць галасы аб патрэбе зьвярнуцца „тварам да вёскі", мы з свайго боку падаем наш голас і наш пагляд на гэтую мо' найважнейшую ў нашым сучасным жыцьці справу. Калі дзяржаўныя ўлады ня пойдуць па шляху рашучага падмацаваньня дробных сялянскіх гаспадарак, дык патрэбныя дзеля гэтага затраты прыдзецца ўсё роўна з году ў год рабіць на дакармліваньне галодных. І гэтыя затраты на пракорм назад ужо ня вернуцца.

## Да гісторыі рэформы беларускага правапісу у БССР.

У выданай летась кніжцы „Беларуская Акадэмія Навук на парозе другой пяцігодкі" (Менск, 1933), аўтарамі якое ёсьць Ів. Ф. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч, зьмешчаны ўсе тыя „доказы" „контр-рэвалюцыйсьці і сувязі з замежнымі інтэрвэнтамі" беларускіх культурнікаў — тварцоў і кіраўнікоў Акадэміі, якія паслужылі падставай дзеля разгрому гэтых культурнікаў у 1930 годзе. „Доказамі" іх „праступкаў" ёсьць, да прыкладу, тое, што яны... вывучалі мову і творчасьць беларускіх сялян, а не... абмаскоўленых работнікаў у гарадох; што вывучалі мову старадаўных памятак беларускага пісьменства, друкаў д-ра Фр. Скарыны, які прынёс на Беларусь друкарства ды зусім ня быў „манахам", як яго называюць „новыя навукоўцы", а сьвецкім чалавекам,—і г. д.

Сярод інфармацыяў аб пазытыўнай працы папаўшых у „опалу" акадэмікаў ёсьць некаторыя вельмі цэнныя, хоць „праскочылі" яны на страніцы кніжкі хіба праз недагляд Компартыі. Гэтак аказваецца, што „вычышчаная за контррэвалюцыю" ў 1930 г. „камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы", дырэктарам якое быў ведамы культурны працаўнік Б. Эпімах-Шыпіла, а вучоным спэцам — М. Байкоў, сабрала да 1928 году да 400.000 картак з запісанымі на іх словамі з жывое беларускае мовы. — Ці-ж гэта ня доказ... „контррэвалюцыйнасьці"? — І гэтак далей.

Паміж гэтымі інфармацыямі асабліва цікаўная адна, зьмешчаная на 85 стр. Аказваецца, што—пасьля „абнаўленьня" Беларускае Акадэміі Навук „стопрацэнтнымі камуністамі"—Акадэмія пачала працу над рэформай правапісу. Інстытут мовазнаўства распрацаваў праект рэформы ў 1932 годзе, і гэты праект меў быць абгавораны на „Усебеларускай канфэрэнцыі па правапісу", каторая павінна была сабрацца ў Менску ў пачатку 1933 году. — На жаль, пастанова аб канфэрэнцыі ня была зьдзейсьнена, і савецкія ўлады, маючы ўжо гатовы праект новага беларускага правапісу, апрацаваны Акадэміяй, прайшлі міма яго і выдумалі свой заправуды-ж дзіві правапіс, які і правялі ў жыцьцё ўрадавым дэкрэтам. Напляваўшы гэтак і на ўсіх новых акадэмікаў—„стопрацэнтных камуністаў", і на зробленую імі работу (— характар апошняе, на жаль, нам няведамы), — савецкі ўрад зьвярнуўся да... тых жа акадэмікаў, каб яны „навукова абгрунтавалі" казённую „рэформу", якая, ясна-ж, мусіла глыбака пярэчыць акадэмічнаму праекту рэформы...

Не зайздросьцім бедным акадэмікам: яны змушаны цяпер вырачыся ўсяго, што лічылі навукова слушным, і панад навуковай праўдай паставіць... прыказ Компартыі і Савецкага ўраду! Бо-ж заданьне выпаўніць—трэба...

## Гаспадарчы аддзел.

### Пасадка раньняе бульбы.

Маладая бульба, якая ў першых партыях прыходзіць на рынак, заўсёды мае добрую цану, а дзеля таго разьвядзеньне яе шмат дзе можа добра аплаціцца. Найболей выгаднае палажэньне для такога роду культуры займаюць вёскі, якія знаходзяцца недалёка ад местаў. Але і там, дзе са збытам даволі трудна, адзін - другі кавалак поля з раньняю бульбаю ніколі не зашкодзіць гаспадару.

Прысьпяшэньне росту бульбы залежыць ад наступных умоваў: 1) ад сорту і 2) ад спэцыяльных захадаў, якія спрыяюць прысьпяшэньню росту.

Найраньнейшымі сартамі бульбы ёсьць розныя скарасьпелкі (Erly Rose, Cimbal, Richter, Erly Puritan, Stella, Stolnik і інш.). Выбар сорту павінен быць узалежнены ад мяйсцоваьсці. У адной мяйсцовасьці лепей удаецца адзін гатунак, а ў другой — другі.

Агулам можна сказаць, што на глебы лягчэйшыя болей адпаведнымі могуць быць гатункі белыя, а на глебы цяжэйшыя лепей даваць гатункі са скуркаю чырвонай. Апрача таго, мейсца, на якім садзіцца раньняя бульба, павінна быць зацішным, а сама глеба цёплая, гнойная і прапускная. Што-ж датычыцца напярэднікаў, то агулам найлепей бульба ўдаецца пасьля матыльковых расьлінаў, як каню: ына, гарох, лубін, сэрадэля і інш. Поле пад раньнюю бульбу павінна быць апрацавана яшчэ з восені. Гной заворваць таксама лепей увосені, толькі ня глыбака. Калі-ж па тым ці іншым прычынам гнаіць прыходзіцца вясною, то трэба, каб гной быў добра перагніўшы. Вясеньняе воркі трэба старацца ўнікаць, бо пры ворцы вельмі перасыхае поле. На глебах пяшчаных радзяць ня толькі поле на зіму загараць, але і забаранаваць яго.

За 3-6 тыдняў перад тым, як раньняя бульба мае быць пасаджана, яе прарошчаваюць. Пусьціўшая расткі бульба куды хутчэй вырастае, чым бульба перад пасадкай не прарошчаная. Для прарошчаваньня бяруць бульбіны сярэдняе велічыні і ўкладаюць іх у скрынкі вяршкамі ўгару і не таўсьцей, як у два пласты. Скрынкі гэтыя трэба паставіць там, дзе досыць сонечнага сьвятла, а тэмпэратура трымаецца ад 10 да 14° цэльзія. Пастаўленая на сонцы і ў цёплым мейсцы бульба за нейкі час пусьціць расткі. Расткі гэтыя павінны быць кароткія і таўстыя з афарбаваньнем выразна зялёным.

Калі зямля належна ацепліцца, тагды бульбу разам са скрынкамі вывозяць на поле. Садзіць лепей у радкі, вызначаныя спэцыяльным значнікам. У адпаведнай адлегласьці (50 цэнт. адзін радок ад другога і 30 цэнт. бульбіна ад бульбіны ў радку) капаецца ў пульхнай зямлі ямка, кладзецца туды бульбіна расткамі ў гару і прысыпаецца зямлёю. Пасьля гэтага насыпаную над бульбінаю зямлю трэба асьцярожна абціснуць. Выкрыта, што калі зямля пасьля пасадкі ня была добра абціснена, дык бульба хутчэй загнівала і давала слабейшыя ўсходы. Ня радзім таксама садзіць бульбу заглыбака.

Пасьля пасадкі за раньняю бульбаю дагляд такі самы, як і за звычайнаю. **С. А.**

### Аб кармленьні коней жытам.

Вясковы гаспадар жыта ўжывае ня толькі для сябе на хлеб, але досыць часта яго дае і на корм жывёле. Асаблівую ўвагу на сябе зьвяртае жыта пры кармленьні ім коней. Дасьледжана, што коні ад звычайнага жытняга корму могуць захварэць на колькі, якія дужа часта канчаюцца нават сьмерцяй жывёлы. Тым часам гэтую небясьпеку ня так трудна абмінуць.

Дзеля таго, каб жыта коням ня шкодзіла, ня можна ім замяняць усяе колькасьці зернавога корму, належнага жывёле. Апрача таго, жыта, якое даецца коням, павінна быць перад гэтым добра размочана (мачыць ад 12 да 24 гадзін у звычайнай вадзе).

Калі-ж гаспадар хоча карміць коней ня жытнім зярном, а мукою з сечкаю, то тагды мочыцца не сама мука, а сечка зьмешаная з мукою. Пры краплеьні сечкі вадою трэба ўважаць, каб у сечцы не заставалася ані звані сухое мукі, каторая можа быць небясьпечнай. **А.**

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Абход беларускага нацыянальнага сьвята.** Таварыства Беларускае Асьветы, па прыкладу леташняга году, пастанавіла з'арганізаваць абход 16-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, якія прыпадаюць на 25 сакавіка. Падробнасьці падамо ў наступным нумары нашага часопісу.

Спадзяемся, што па ўсім прасторы Заходняе Беларусі сьвядомае нацыянальна беларускае грамадзянства пастараецца ў меру магчымасьці адзначыць гэты ўрачысты дзень.

**Апэляцыйны суд над навагрaдзкімі вучнямі.** Засуджаныя вучні беларускае гімназіі ў Навагрaдку, на якіх напялялі „свае“ правакатары, падалі апэляцыю ў вышэйшую інстанцыю. Справа іх будзе разглядацца ў Апэляцыйным Судзе ў Вільні 13 красавіка.

**З Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У. С. Б. ў Вільні.** 4. III. 34 адбыўся Надзвычайны Агульны Сход сяброў Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы, на якім была разглядана справа пратэсту проці рэформы бел. правапісу ў Менску. Пратэст гэты быў ужо праведзены на Агульным Надзвычайным Сходзе Т-ва 4. II. 34; аднак, з прычыны таго, што некаторыя сябры Т-ва заквэстыянавалі правамоцнасьць галасаваньня, у якім бралі ўдзел і асобы ня маючыя права голасу, — справа пратэсту ізноў была парушана ў Т-ве. Пратэст, зрэдагаваны д-рм Я. Станкевічам, быў прыняты 17 галасамі проціў 11 і будзе апублікаваны ў прэсе.

Уважаючы гэты сход за выгадны мамэнт для ўзнаўленьня сваіх уплываў, група „спадароўцаў“ праз проф. Кошмідэра ўнясла прапазыцыю новых перавыбараў Ураду, які таксама быў выбраны на гэным сходзе, што прызнаны неправамочным. „Спадароўцы“, зблёкаваныя з групай хадэкаў, урачыста правялі сваю большасьць у Урад Т-ва.

Трэба зазначыць, што стары ўрад выразна працівіўся імкненьню д-ра Я. Станкевіча кіраваць справамі Т-ва, бо-ж ён ня студэнт, а лектар. Ці апанаваньне Т-ва „спадароўцамі“ акажацца карысным для яго працы, вельмі сумліўна.

**Чарговая правакацыя.** У той час, як усё сьведамае нацыянальна беларускае грамадзянства напружае ўсе свае сілы, каб захаваць і ўзмацаваць дзьве апошнія ўжо беларускія гімназіі ў Заходняй Беларусі, — кс. Адам Станкевіч у сваёй атручанай „Крыніцы“ робіць новы агідны данос на віленскую беларускую гімназію (Беларускую філію Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Словацкага) і на кіраўніка яе, ілжыва абвінавачываючы іх у... „камунізьме“. Новае выступленьне кс. Станкевіча проці гімназіі, каторую ён ужо даўно стараецца разбурыць, мае выразную мэту: даць ворагам беларускага народу „падставу“ дзеля ліквідацыі гімназіі, і ня можа быць разглядана інакш, як самая грубая правакацыя.

Грамадзянства павінна рашуча закляйміць гэтага нацыянальнага шкодніка і ягоную „працу“.

## На правінцыі.

**З нашага жыцьця** (в. Дубіна, Забрэзскай гм.). Даўно ўжо мы зьбіраліся напісаць у родную газэтку аб сваім жыцьці. Насамперад напішам аб тым, як адбываліся выбары да рад вясковых і да рад валасных. Мы, беларускія сяляне, хацелі мець у гэтых радах людзей чынных, шчырых і сьведамых беларусаў, але-ж зрабіць гэтага не ўдалося, бо не дапусьцілі нашыя гмінныя ўлады. У вёсцы Дубіна, Забрэзскае воласьці, у часе выбараў да вясковае рады паліцыя — па намове войта-асадніка—„ізолёвала“нашага тутэйшага дзеяча б. настаўніка А. Вяршыцкага: яго папросту забралі на пастарунак. Калі даведаліся аб гэтым сяляне, дык ні адзін не пайшоў на выбары ў знак пратэсту. Але войт аб гэтым ня тужыў: сам улажыў сьпісак з „сваіх“ людзей і зрабіў выбары блізу бяз выбаршчыкаў...

Сярод нашага сялянства пануе глыбокае абурэньне з прычыны антыбеларускага выступленьня на благачыньніцкім зьезьдзе 25 студня г. г. вядомага беларусаеда прат. Васілеўскага. Мы ўжо здаўна ведаем гэтых Васілеўскіх, бо пазналі вельмі даўно, калі нябожчык брат гэтага, прат. Уладзімер Васілеўскі, быў настаяцелем у нас у Валожыне. У 1922 годзе абодва яны вялі заядлую барацьбу проціў нашае роднае мовы і культуры. Вельмі шчыра вітаем абароннае выступленьне на гэным зьезьдзе за нашу родную мову грам. Астроўскага. Запэўняем усіх шчырых барацьбітоў за родную мову і культуру, што мы, беларускія сяляне, сваімі думкамі, сваім духам і сваей працай будзем з імі. Наш голас: „прэч з маскоўшчынай у царкве!“. Мы таксама будзем весьці барацьбу за родную мову — з поўнай надзеяй, што Бог нам дапаможа, і мы пераможам так, як перамаглі калісь свайго настаяцеля, „бо кансысторія прат. Вл. Васілеўскага бараніла, а мы яго выгналі за варожасьць яго да нашае роднае мовы. **Гаротнік.**

**„Ішлі наперад, цяпер назад“.** (в. Жарэбкавічы, гм. Ляхавіцкай, пав. Баранавіцкага). Наша в. Жарэбкавічы была калісь ведама, як адна з найбольш нацыянальна сьведамых вёсак. Першыя беларускія тэатры, якія пачалі сваю дзейнасьць на нашым тэрэне, карысталіся заўсёды вялікім пасьпехам. Ня было ніводнае беларускае п'есы, якая-б не ставілася ў нас два разы. А цяпер? Не пачуеш ужо болей на тэатральнай арэне пекную родную песьню, песьню блізкую, пранікаючую да глыбіны сэрца; беларускі дэкляматар загінуў, артыстаў, на гульню якіх люба было глядзець, няма, як бы скрозь зямлю праваліліся. Усё культурнае жыцьцё сярод моладзі, якое шпаркімі крокамі ішло наперад, зусім замёрла.

Чаму-ж гэтак сталася?

У Жарэбкавічах было шмат культурна-прасьветных арганізацыяў. На чале іх стаялі людзі, якія мелі пашану ў грамадзе і маглі весьці добра працу. Вось жа цяпер гэтыя арганізацыі паліквідаваліся, а з імі і ўвесь культурна-прасьветны рух. Засталася толькі адна коопэратыва, і тая моцна кульгае. А чаму? Таму, што ворагі гэткае карыснае нацыянальнае працы пачалі разьядаць нашае грамадзянства, пускаць аб найбольш актыўных працаўнікох нейкія чуткі, якія іх ганьбяць ды пазбаўляюць народнага даверу. Самі-ж аўтары гэтых чутак ці няздольны да працы, ці ня хочуць яе весьці.

Схамянецеся, людзі! Калі хто заслужыў на закіды ў сваёй грамадзкай працы, дык яго, ведама, трэба бойкатаваць, цурацца. Але ўзвадзіць на людзей абвіненьні, якія не абгрунтаваны бясспрэчнымі даннымі,—гэта рэч небясьпечная, а ў выніках сваіх, як мы пераканаліся, шкодная. **Тутэйшы.**

## Б. С. С. Р.

**Палёгкі для палякоў у БССР.** Віленская расейская газэта, а ўсьлед за ёй і польская прэса падаюць (са Стоўпцаў) весткі аб тым, як шырака і глыбака адбілася—на карысьць палякоў і польскай справы ў БССР — польска-савецкае збліжэньне апошніх часоў.

Ужо ў канцы 1933 г. атрыманы дазвол на адчыненьне польскіх школаў на прасторы ўсяе Савецкае Беларусі. У акругах Менскай, Плешчаніцкай і Койданаўскай дазволена арганізацыя аб'езднага польскага тэатру. У Менску адчынена дзяржаўная профэсіянальная школа ў польскай мове. У раёнах Заслаўскім, Барысаўскім, Менскім, Плешчаніцкім і Койданаўскім дазволена адчыненьне польскіх бібліятэкаў-чытальняў — пры дапамозе мясцовых уладаў. У Заслаўскай акрузе будзе пабудаваны (коштам дзяржаўнага скарбу) „польскі народны дом“ і польская калёнія для вучняў.

Падобныя-ж палёгкі атрымала польскае насяленьне і ў Савецкай Украіне.

**Пашырайце нашу газэту!**

# Палітычная хроніка.

**Новы міністар асьветы ў Польшчы.** Польскі прэм'ер Енджэевіч, які адначасна быў і міністрам асьветы, зрокся апошняга становішча. За міністра асьветы і рэлігіяў п. Прэзыдэнтам назначаны брат прэм'ера, Міхал Енджэевіч.

**Першая прамова новага міністра асьветы.** У часе бюджэтнай дыскусіі ў Сэнаце новы міністар асьветы сказаў прамову, у якой, заявіўшы, што будзе, зразумела-ж, прадаўжаць працу і палітыку папярэдняга міністра, паміж іншым сказаў:

„Чыньнік дзяржаўнага ўзгадаваньня павінен прасякаць сухія школьныя праграмы і падручнікі. У падрыхтоўцы маладога пакаленьня да жыцьця, трэба ня толькі высоўваць на першы плян патрэбы дзяржавы ў яе будучыні, але і выкарыстываць увесь даробак прошласьці. Дзяржаўнае ўзгадаваньне дзеля таго павінна быць цесна зьвязана з узгадаваньнем нацыянальным, толькі тады вялікія мэты школьнай рэформы будуць дасягнены поўнасьцяй".

Можна толькі шчыра прывітаць такі пагляд новага міністра. Беларускі грамадзянін Польшчы мае ў сваёй душы жывую памяць аб слаўнай гістарычнай мінуўшчыне, мае і ўласную нацыянальную культуру. У атмасфэры гэтых жывых духоўных вартасьцяў найлепш могуць узрастаць маладыя пакаленьні беларусаў — грамадзян Польшчы. Справа толькі ў тым, каб забясьпечыць у школе дый у жыцьці належную пашану дый неабходныя варункі для разьвіцьця гэтых культурна-гістарычных вартасьцяў, якія жывуць у нацыянальнай душы беларускага народу...

Толькі!

**Да лёсу зямельнай рэформы ў Польшчы.** На адным з апошніх паседжаньняў Сойму галасамі клюбу ББ зьменены закон аб абаротным фоньдзе зямельнай рэформы. Апазыцыя, галасуючы проці новэлькі, даводзіла, што зьмена значна пагаршае закон, перакладаючы кошты зямельнае рэформы з дзяржаўнага скарбу на сялянскае насяленьне.

На тым жа паседжаньні прыняты — галасамі клюбу ББ — закон, які прадоўжывае на далейшыя два гады (—да канца 1936 г.) сілу закону 1932 г., зwольніўшага ўрад ад абавязку штогодна распарцэлёўваць ня менш як 200 000 гэктараў паміж мала- і беззямельнікамі.

**Абмежаньне даразных судоў.** Згодна з пастановай рады міністраў, даразныя суды ў Польшчы касуюцца для ўсіх відаў праступкаў, апрача шпігоўства на карысць чужых дзяржаў.

**Арышт камуністычнае цэнтралі ў Сопоце.** Як падавалі нядаўна газэты, улады вольнага места Гданску арыштавалі ў Сопоце камуністычную цэнтралю, якая сваей дзейнасьцяй ахапляла ня толькі Польшчу, Літву і Нямеччыну, але і Францыю, Італію і Скандынаўскія дзяржавы — дый блізу ўсю Эўропу. Кіраўнікамі гэтай цэнтралі былі два студэнты-хімікі грамадзяне Польшчы: Файгельбаўм з Варшавы і Ласкоў з Вільні. Канфіскавана вялізарная маса літэратуры ў розных мовах, у тым ліку—ў эспэранто (штучная мова на падставе лаціны). Апрача таго, знойдзена вялізарная маса адрасоў камуністычных агентаў ва ўсіх дзяржавах Эўропы, у тым ліку— аж 2000 адрасоў у Польшчы.

Цяпер віцэ-прэм'ер Гданску заявіў, што ўсе гэтыя матэрыялы будуць, зразумела, дадзены заінтэрэсаваным дзяржавам, з якімі Гданск будзе супрацоўнічаць дзеля бараньбы з камунізмам. Адаб'еццa гэта, пэўне-ж, і на нашай зямлі...

— —

**Справа „разбраеньня".** У апошні час асаблівую дзеяльнасьць разьвівала Англія, каб за час перарыву ў працы „разбраенчай" канфэрэнцыі падрыхтаваць хаця б „мінімальнае паразуменьне" дзяржаў у гэтай справе.

Англійскі міністар Эдэн аб'езьдзіў сталіцы вялікіх дзяржаў: Парыж, Рым, Бэрлін, узгадняючы іх пагляды — на падставе ведамага мэмарыялу Мак Дональда, які прызнае Нямеччыне права дазбраеньня, а Францыю змушае да найбольшага зьменшаньня яе збраеньняў, залішне ўжо разбудаваных за час яе „дыктатуры ў Эўропе".

Пасьля візытаў у Парыжу, Рыме і Бэрліне, мін. Эдэн прывез ізноў у Парыж праект такога „мінімальнага паразуменьня", якбыццам узгоднены паміж усімі заінтэрэсаванымі дзяржавамі. Падставы праекту наступныя:

1. „Разбраенчая" умова заключаецца на 8 гадоў;
2. „Неразброеныя дзяржавы" пакідаюць надалей свае збраеньні без зьменшаньня (навет Францыя);
3. Нямеччына павялічывае сваю армію да 250.000 жаўнераў і атрымлівае дазвол на ўсе роды абароннага (?) яе азбраеньня;
4. Уводзіцца міжнародавы ваенны кантроль, роўны для ўсіх дзяржаў, якому падлягаюць і „штурмовыя фармацыі" ў Нямеччыне;
5. У выпадку нарушэньня ўмовы падпісаўшыя яе ўрады зьяжджаюцца на нараду, каб абсудзіць, што рабіць з гвалтаўнікам...

Але, пакуль англійскі дыплёмат круціўся па сталіцах Эўропы, у Францыі зьмяніўся ўрад... Урад Думэрга—урад „нацыянальнай абароны"—катэгорычна адмовіўся навет гутарыць з мін. Эдэнам на падставе гэтага „мінімальнага паразуменьня", і той ні з чым зараз-жа паехаў дамоў.

Сам прэм. Думэрг заявіў каротка, але рашуча, Эдэну: „Францыя ня можа згадзіцца на легальнае дазбраеньне Нямеччыны, ведаючы добра, як далёка зайшло ўжо яе азбраеньне нелегальнае. Францыя ня верыць ані ў рэальнасьць кантролю, ані ў карысьць

ад тэй „нарады“, на якую маюць зьехацца прадстаўнікі дзяржаў у выпадку, калі Нямеччына начхае на ўмову. А таму Францыя ня будзе вязаць сабе рукі нерэальнай умовай, але пакіне сабе свабоду дзейнасьці на выпадак небясьпекі“...

**Аўстрыяцкая проблема.** Як ведама, Мусоліні, разграміўшы рукамі Дольфуса і Штарэмбэрга (правадыр аўстрыяцкіх фашыстаў) „лягер марксыстаў“, цяпер з усіх сіл націскае на Аўстрыю, каб лучылася з Вэнгрыяй, адбудоўваючы, такім чынам, даваенную Аўстра-Вэнгрыю—пад „бацькоўскай ахоўай“ Італіі, каб тым самым зачыніць усялякі шлях да злучэньня Аўстры з Нямеччынай. Дзеля таго Мусоліні й запрасіў да сябе ў Рым прэм'ера у Аўстрыі і Вэнгрыі, а кандыдат на караля Аўстра-Вэнгрыі, Оттон Габсбургскі, атрымаў ад Аўстрыйскага ўраду дазвол вярнуцца ў край...

Але і Францыя, даўшая нібы-то „вольную руку“ Італіі ў Аўстрыі, і Англія — рашуча пратэстуюць проці адбудовы манархіі Габсбургаў. Здаецца, што і ў Вэнгрыі яе камандзіры ня маюць вялікай ахвоты да манархіі, а да таго-ж ня хочуць сварыцца з Нямеччынай, у прыязьні з якой Вэнгрыя заінтэрэсавана гаспадарча больш, чым з Італіяй. Спрытным ходам нямецкі ўрад (перад самым прыездам у Будапэшт паўнамочніка Мусоліні) заключыў з Вэнгрыяй шырокага ахопу гандлёвы трактат, каторы дае значныя выгады Вэнгрыі.

У апошні мамэнт Мусоліні, зразумеўшы, відаць, сілу Нямеччыны як у Вэнгрыі, так і ў Аўстрыі, пайшоў на кампраміс, запрапанаваўшы Бэрліну і Вене сваё пасярэдніцтва ў паразуменьні між імі. Калі Гітлер адмовіцца ад „злучэньня“, тады аўстрыяцкую справу Рым з Бэрлінам вырашаць хутка, не аглядаючыся ані на Лёндан, ані на Парыж.

**Урадавы крызіс у Латвіі.** Латвійскі Сойм выразіў недавер нацыяналістычнаму ўраду Блодзека, які падаўся ў адстаўку. Крызіс выкліканы тым, што фракцыя Сялянскага Саюзу выйшла з складу ўрадавае большасьці і перайшла ў апазыцыю.

**„Назначэньне“ новага парляманту ў Італіі.** У хуткім часе маюць у Італіі адбыцца „выбары“ ў новы парлямант — на месца толькі што распушчанага старога. „Вялікая Фашыстаўская Рада“ ўжо зложыла „адзіны выборны сьпісак“, за які маюць выбаршчыкі галасаваць у часе „выбараў“. Спаміж 1000 кандыдатаў, запрапанаваных рознымі мясцовымі і цэнтральнымі фашыстаўскімі-ж установамі, Рада выбрала 400 (лічба паслоў парляманту!), якія і маюць быць „выбраны“ народам у дэпутаты.

**Зьмена габінэту ў Гішпаніі.** У Гішпаніі габінэт Леру падаўся ў адстаўку, страціўшы ў парлямэньце падтрыманьне фракцыі каталіцкіх клерыкалаў. Але прэзыдэнт Ізноў даручыў таму-ж Леру фармаваньне новага ўраду, які ўжо і створаны ім.

З лічбы міністраў папярэдняга ўраду толькі 4 найбольш правыя не ўвайшлі ў склад новага габінэту, які наагул захаваў характар радыкальна-лібэральны, цэнтра-левы, пасунены крыху далей у лева.

**„Марш галодных“ у Англіі.** У розных краёх увайшоў у сумную моду звычай „маршу галодных“ з далёкае правінцыі ў сталіцу. Апошні „марш“ адбыўся толькі што ў Англіі. 20.000 галодных прыйшлі ў Лёндан, каб напомніць сытым аб сваёй цяжкай долі. Характэрна, што былы соцыяліст-работнік Мак-Дональд—з ласкі найбуйнейшай буржуазіі сучасны прэм'ер Англіі—ня прыняў дэлегацыі галодных...

**Каранацыя імпэратара Манджу-Ко.** У канцы мін. месяца ў Хсінг-Кінг, сталіцы Манджу-Ко, адбылася пышная ўрачыстасьць — каранацыя імпэратара Манджу-Ко (незалежнай Манджурыі). Імпэратар Пу-І атрымаў тытул „Кэ-Тэ“, што значыць: уладыка зямлі —у адрозьненьне ад Мікада, які мае тытул „Тэн-Ко“, што значыць: уладыка неба... Таму —хіба-ж зусім дакладна і точна сьцвярдзіў новы імпэратар у сваёй першай троннай прамове, што яго ўлада паходзіць з волі неба (ці—„уладыкі неба“—ня ўсё роўна?), а ня з волі народу.

Характэрна, што напярэдадні каранацыі японскі ўрад выдаў маніфэст, у якім, вітаючы „эпохавае здарэньне адбудовы Манджурскае манархіі“, заявіў зусім адкрыта, што „Японія будзе бараніць нятыкальнасьці і незалежнасьці Манджу-Ко ад усіх вонкавых ворагаў маладой саюзнай дзяржавы“ і з гэтай мэтай будзе на яе тэрыторыі трымаць свае войска“.

# Праступная афэра ў Францыі.

У свой час мы пісалі аб чарговым „фінансавым скандале“ ў Францыі, гэроем якога быў афэрыст Ставіскі, каторы абакраў—шляхам тварэньня розных фікцыйных „прадпрыемстваў“ і „банкаў“ — тысячы людзей ды дзяржаўныя і прыватныя ўстановы на сотні мільёнаў франкаў.

Каб „трымацца на вышыні“ дый карыстацца „поўнай даверу“, гэты афэрыст раскідаў дзесяткі гэтых чужых мільёнаў на ўсе бакі, даючы „пазыкі“,—прасьцей: хабары! — розным „уплывовым асобам“. Калі афэра раскрылася, афэрыст закончыў жыцьцё гвалтоўна: ці сам забіў сябе, ці, як кажуць некаторыя газэты, быў забіты зацікаўленымі ў захаваньні „сакрэту яго чакавае кніжкі“ асобамі. „Справа Ставіскага“ набрала такой вагі, што праз яе ў Францыі паляцелі далоў аж два міністэрствы—за тое, што быццам хацелі „замесьці сьляды“ ўчасьця ў „падзеле“ гэтых мільёнаў залішне ўжо высокіх асоб — пераважна з лона ўрадавых партыяў...

Новае міністэрства Думэрга, абапертае блізу на ўсіх партыях парляманту, атрымала

першым чынам мандат „ачысьціць Францыю ад брудаў і машэнстваў"—у сувязі з афэрай Ставіскага. Не пасьпела, аднак, яшчэ міністэрства Думэрга распачаць гэтую працу, як галоўны пракурор, які кіраваў справай, ведаючы ўсе яе тайны, раптам быў забіты. Забойства гэтае ўсхвалявала ўсю Францыю: ясна было, што „вораг мае сілу, адвагу, дый здавацца ня думае"... Але французы ўмеюць шукаць судовае праўды і караць сваіх зладзеяў. Над сьледчым апаратам судовае ўлады пастаўлена „на варце" сьледчая камісія парляманту. Укрываць прыяцеляў зрабілася ўжо немагчымым. І пасыпаліся імёны і факты, як з меху... Пракуроры, судзьдзі, адвакаты, рэдактары, шэфы паліцыі, а найбольш —дык паны дэпутаты... ўсе шырока карысталіся „крэдытам" „чароўнага пана Аляксандра" (як называлі ў Францыі Ставіскага). У руках сьледчых уладаў апынуліся ўрэшце доўга шуканыя „чэкавыя кніжкі" афэрыста, — сьпярша частка іх, а пасьля блізу ўсе. — Але дагэтуль толькі частка ўпісаных у гэтыя кніжкі 2.000 імёя апублікавана... Апублікаваньне поўнасьцю гэтых „чэкаў", якога трэбуе прэса, наробіць, хіба-ж, аж залішне ўжо многа скандалу...

Ці пойдзе да канца па гэтаму шляху навет сам Думэрг, пабачым...

# Новая кніга аб будучай вайне.

Толькі што выйшла праца 18 ваенных спэцыялістаў розных дзяржаваў (выданьне Міжпарляманцкага Саюзу ў Жэнэве) — пад загалоўкам: „Які характар мела-б новая вайна?"

Блізу ўсе спэцыялісты пераканаы, што рашаючую ролю ў будучай вайне адыграў бы паветраны флёт—бомбардуючыя аэрапляны.

Асабліва цікаўны пагляд аўтараў—з гэтага пункту гледжаньня — на вынікі вайны паміж Японіяй і СССР, якая, як думаюць, зьяўляецца, можа, найбольш блізкай і магчымай. Дык вось, паветраны флёт як-быццам ня толькі выраўнівае ўсе шансы на перамогу паміж Японіяй і Саветамі, але й дае апошнім вялікую перавагу. Гушчыня насяленьня Японіі, блізкасьць паміж яе найвялікшымі асяродкамі прамысловасьці зьяўляецца для яе страшэннай небясьпекай. Калі-б савецкаму паветранаму флёту ўдалося падпаліць ды збурыць хаця-б толькі 4 галоўныя месты Японіі: Токіо, Кобэ, Осака і Іокогама, зрабіўшы на іх налёт з Уладзівастоку, дык уся ваенна-прамысловая сіла Японіі была-б зламана, а няменш траціна яе насяленьня зруйнавана. А калі-б пры гэтым згінула і сям'я імпэратара, якая зьяўляецца як-быццам „душою" Японскага народу, тады ён, адразу здэмаралізаваны, зусім упаў-бы духам...

Трэба думаць, што бальшавікі, як „людзі рэальныя", добра разумеюць гэта, дык не задумаюцца кінуць адразу на гэтую апэрацыю ўвесь свой паветраны флёт. Ігра варта таго, каб заплаціць за перамогу хоць-бы палавінай гэтага флёту...

Разумеюць усё гэта, ясна-ж, і самі японцы, а таму, трэба думаць, так усьцяж адкладаюць вайну з Саветамі, падгатаўляючы перш за ўсё адарваньне ад СССР усяго вялізарнага пасу яго валаданьняў — ад мора да самага Байкалу, разам з Уладзівастокам.

**М. Машара.**

# ВЯСЕЛЬЛЕ.

(Працяг).

Дружка просіць у падружак
Маладому мейсца сесьці,

А падружачкі,
Ды ад дружачкі,
Просяць, просяць —
Злотых дзьвесьці.

І таргуюцца упарта,
Надбаўляюць па грашу.
Вось тут сьмеху!... колькі жартаў!

— Ці-ж яно аж столькі варта?
— Як ня варта?! Пэўне варта...
— Не заплаціш,— ня пушчу.—

Вынімае дружка грошы, —
Ужо скончылі з цаной;
Адступаюць і саджаюць
Маладога з маладой.

Гэй, сваточкі і сваты!
Калі ласка — за сталы!

Ды садзецеся-ж вы,
Прамачэце-ж вы
Свае горлачка
Самагоначкай.

Гэй, музыка, грай!...
Гэй, музыка, рэж!...
Налівай, налівай,
Выпівай
Ды еж!

Чарка чарку паганяе, —
— Гэй, сваточак, будзь здароў!...
— На сто гадоў!
— І будзь багат!
— Гадуй сыноў
— І будзь з іх рад!

Сват да свата выпівае,
А сват свату прыпявае:

— Гарэліца сакатуха,
— Ох, ты, наша весялуха,
— Ды каціся у раток!
— Выпі, выпі, наш сваток!
— Выпі, пыпі, закусі
— І другую папрасі!

Свацьці ходзяць каля столу,
Падхмяліўшыся—вясёлы,
Кожну чарку спатыкаюць
І сваточкаў даглядаюць,
Прыганяючы,
Прыпяваючы:

— Ах, сваточкі мае
— Запрашоныя,
— Ды чаму-ж вы у нас
— Не вясёлыя?

— Ці наш хлеб ня пушон? —
— Дык мы выпушым...
— Дык мы выпушым...
— Ці гаспадар не вясёл?
— Дык падвесялім,
— Дык падвесялім...

— Ой, сваточкі, ежце!..
— Ой, сваточкі, піце!..
— Чаму-ж вы нешта
— Сумныя сядзіце?..

Сваты п'юць
І ядуць,
Сваты весяляцца.
І пяюць
І гудуць, —
Вясёла у хатцы!

А бутэлька за бутэлькай
Кружаняе па стале,
Не аднаму ад гарэлкі
Заімгліла ў галаве.

І пасыпаліся словы;
Тут і жарты, і прамовы,
Памужыцку, як вядома, —
Бесталкова, ды вясёла.

Ах, вясельле, ты вясельліца,
Ты вясельліца вясковае!
Закружылась, як мяцеліца,
Як мяцеліца зімовая.

А музыкі рэжуць,
А музыкі граюць —
І пад чарку, і пад скокі.
Узялася сваццья ў бокі—
Паварачываецца,
Пахарашываецца.

— Ды упілася-ж я,
— Не за ваша-ж я!...
— Мая курка зьняслася, —
— За яечка ўпілася...

Марш музыкі заігралі
Маладому й маладой.
Усе з-за столу паўставалі, —
Заскакалі грамадой —

Ды прытопаваюць,
Ды прыплёскаваюць,
На ўсю вёску гудуць.

А музыка не шкадуе, —
Ох, музыка наш!
Ўсё вясельлейка віншуе, —
Усім агульны марш.

Адпялі, адскакалі
І палезьлі за сталы —
Ды пад музыку,
Ды пад вясёлую.

А там, вылезшы з-за столу,
Дораць, дораць маладу...

Бацька з маткай — хлебам-сольлю,
А сваточкі—па грашу.

Засмуцілась маладая.
І ня плача—сьлёзы коцяцца;
А падружка пацяшае, —
Пэўна замуж самой хочацца...

Гэй, музыкі,
Што-ж вы?
Вам жа плацім
Грош мы!
Гэй, музыкі, — грай!

Падарылі маладую,
Дык рыхтуемся-ж у пуць.
Чуеш, песьню ўжо якую
Нам сватыначкі пяюць:

— Да дубу, зязюлька,
— Да дубу...
— Да шлюбу, Ганулька,
— Да шлюбу.

Запрагаюць сваты коні, —
Звонка звоняць шумяты;
А у хаце шчасьця, долі
Просе ў бацькі і матулі
Маладая й малады.

На калені сталі...
Пакланілісь нізка ў ногі...
Абразы пацалавалі...
Памаліліся і Богу...

І ідуць на вулку,
А за імі з хаты
Сваты з песьняй гулкай,
Хлопцы і дзяўчаты.

Там чакаюць коні,
Коні—на дарозе,
А званочкі звоняць
Дзінь-дзінь-дзінь,—прыгожа!

Падвое, патрое
На саначкі селі, —
У мейсца другое
Паездзе вясельле.

Абсей-жа, абсей-жа,
Матулька, аўсом!
Хай будзе прасьцейша
І шчасьлівейша
Дарожка сватом!

Ох, вясельле, ты вясельліцца!
Ты вясельліцца, ты вясковае!
Закружылась, як мяцеліца,
Як мяцеліца зімовая.

Як мяцель і праляцела
Там за гумны—у кусты...
Толькі чуць, як ў далі белай
Заціхаюць шумяты.

(Даканчэньне будзе).

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22